# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 11 (58) Лістапад 2011 г.


## Вырак Алесю Бяляцкаму: 4,5 года ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці



24 лістапада судзьдзя Першамайскага суду Менску Сяргей Бандарэнка пакараў кіраўніка праваабарончага цэнтру «Вясна», віцэпрэзыдэнта Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека Алеся Бяляцкага чатырма з паловай гадамі калёніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці. Паводле рашэньня суду, Бяляцкі мусіць сплаціць 721 мільёнаў стратаў і 36 мільёнаў дзяржаўнай пошліны.

Па абвяшчэньні прысуду людзі, што знаходзіліся ў судовай зале, пачалі крычаць «Ганьба!». Алесь Бяляцкі пасьпеў крыкнуць «"Вясну" не спыніць!».

У фае суду людзі разгарнулі транспарат «Вясну не спыніць!» у абарону Бяляцкага. Палкоўнік Яўсееў прыгразіў затрымаць тых, хто трымаў расьцяжку.

## Акцыі салідарнасьці з Алесем Бяляцкім на Віцебшчыне

Актывісты грамадзянскай супольнасьці з Полацку і Наваполацку на рэклямных стэндах і дошках аб'яваў сваіх гарадоў расклеілі плякаты з заклікам вызваліць Алеся Бяляцкага. Акцыя салідарнасьці з кіраўніком праваабарончага цэнтру «Вясна» была зладжаная як рэакцыя грамадзкасьці на публікацыю ў газэце «Полацкі весьнік». Артыкулам пад назвай «Не в ладу с законом» мясцовая газэта далучылася да кампаніі шальмаваньня вядомага ва ўсім сьвеце праваабаронцы, якую праводзяць дзяржаўныя выданьні краіны.




Плякаты з надпісам «Свабоду Алесю Бяляцкаму!» былі вывешаныя на рэклямных тумбах таксама ў цэнтры Воршы. Акцыі салідарнасьці адбыліся і ў абласным цэнтры: у Віцебску было расклеена больш за сотню інфармацыйных улётак з інфармацыяй пра праваабаронцу.

# Дзяржаўныя газэты надрукавалі абразьлівыя артыкулы пра Алеся Бяляцкага

У газэтах «Віцебскі рабочы» і «Народнае слова» надрукавалі артыкул «Как "правозащитник" Беляцкий устроил себе красивую жизнь». Пазьней гэты брахняпіс перадрукавалі дзяржаўныя «раёнкі» вобласьці. Як і папярэджвалі незалежныя мэдыі, рэгіянальную прэсу змусілі разьмясьціць матэрыял, падпісаны Дзянісам Паляванавым, дзе аўтар публічна зьневажае гонар і годнасьць кіраўніка Праваабарончага цэнтру «Вясна».

Калі зьявіліся згаданыя артыкулы, у Менску ішоў працэс над Алесем Бяляцкім. Праваабаронца, якога вінавацяць у фінансавых махлярствах, адстойваў сваю невінаватасьць. Але нехта Дзяніс Паляванаў, не чакаючы вынікаў суду, ужо напісаў пра сападара Бяляцкага як пра выкрытага злачынцу, які «прысабечыў чужыя грошы, адпаведна, увёў у зман заходніх падаткаплацельшчыкаў, і значыць, ён зусім ня той, за каго сябе выдае».

Аўтар паклёпніцкага артыкулу піша пра «важкія рахункі» Алеся Бяляцкага, пра «значныя сумы, якія па іх праходзілі». Аднак ня згадвае ніводнай канкрэтнай лічбы, называючы праваабаронцу «заможным панам», які разам з усім праваабарончым цэнтрам «Вясна» таемна завозіць у Беларусь грашовыя сродкі і раздае сумнеўным асобам. Такім чынам, нехта Дзяніс Паляванаў ня толькі зьневажае Алеся Бяляцкага асабіста, але і спрабуе ачарніць дзейнасьць «Вясны» — піша, што галоўнай мэтай праваабарончага цэнтру было «асабістае ўзбагачэньне» Бяляцкага і яго сям'і.

Тое, што артыкул «заказны», не выклікае сумневу, тым больш, што зьявіўся ён адразу ў некалькіх газэтах. Пра такую мажлівасьць папярэджваў сайт charter97.org, якому адразу некалькі супрацоўнікаў дзяржаўных СМІ распавялі пра «выкрывальніцкі» артыкул па справе праваабаронцы Алеся Бяляцкага яшчэ да яго публікацыі.


Как «правозащитник» Беляцкий устроил себе красивую жизнь

Віцебскі рабочы

Как «правозащитник» Беляцкий устроил себе красивую жизнь

# У цэнтры Віцебску - расьцяжка «Свабоду палітвязьням»

Актывісты "Эўрапейскай Беларусі" вывесілі расьцяжку з партрэтамі палітзьняволеных у самым цэнтры Віцебску — насупраць Летняга амфітэатру, каля гандлёва-дзелавога цэнтру "Марко-сіці". На расьцяжцы — партрэты кандыдатаў на прэзыдэнта Андрэя Саньнікава і Міколы Статкевіча, чальца каманды Саньнікава Дзьмітрыя Бандарэнкі, кіраўніка Маладога фронту Зьмітра Дашкевіча. Расьцяжка правісела амаль гадзіну.




Удзельнікі акцыі распавялі, што супрацоўнікі міліцыі, заўважыўшы расьцяжку, адразу кінуліся шукаць і лавіць тых, хто яе павесіў. Але ім усім удалося ўцячы. Тады міліцыянты вярнуліся ды зьнялі вялікую белую палатніну з чырвоным надпісам "Свабоду" і партрэтамі палітвязьняў. Расьцяжка была прымацаваная да скульптуры ільва — гандлёвага брэнду абутковай фірмы "Марко".

# Да Андрэя Саньнікава не пускаюць адваката

29 лістапада адвакат палітвязьня Андрэя Саньнікава зноў ня змог сустрэцца са сваім падабаронным.



«Начальнік калёніі "Віцьба" проста адмовіў на падставе таго, што "нельга і ўсё"», - распавёў актывіст грамадзянскай кампаніі «Эўрапейская Беларусь» Павал Юхневіч, які суправаджаў адваката ў Віцебскую вобласьць.

Тое, што экс-кандыдат у прэзыдэнты Андрэй Саньнікаў знаходзіцца ў выпраўленчай калёніі «Віцьба-3», стала вядома 23 лістапада. Адвакат Андрэй Варвашэвіч, які выехаў да свайго падабароннага на наступны дзень, ня быў дапушчаны да свайго падабароннага. «Мы зусім не разумеем, чаму гэта адбываецца. Прычым, адмаўляюць у сустрэчы ўжо другі раз. Гэта грубае парушэньне закону. Пасьля таго, як нам сёньня адмовілі ў сустрэчы з Андрэем Саньнікавым, адвакат падаў скаргу ў Дэпартамэнт выкананьня пакараньняў па Віцебскай вобласьці і абласную пракуратуру», - рэзюмаваў Павал Юхневіч.

# *Менскі гарадзкі суд адмовіўся адмяніць прысуд Паўлу Севярынцу*

Старшыня Менскага гарадзкога суду Ўладзімер Пуціла адмовіў адвакату сустаршыні БХД Паўла Севярынца Вадзіму Мушынскаму ў адмене прысуду яго падабароннаму, які за ўдзел у мірнай акцыю пратэсту 19 сьнежня 2010 году быў асуджаны на 3 гады "хіміі".

У пастанове паведамляецца: "Сваю выснову пра наяўнасьць у дзеяньнях Севярынца складу злачынства суд першай інстанцыі годным чынам матываваў у прысудзе. Прыведзеная ў судзе адзнака ўсталяваных фактычных абставінаў зьдзяйсьненьня злачынства, паводле тых матэрыялаў, што маюцца ў справе, зьяўляецца вернай, дзеяньні Севярынца кваліфікаваныя судом паводле ч. 1 арт. 342 КК.

Довады, аналягічныя пададзеным у скарзе, былі прадметам судовай праверкі, і ім дадзеная годная адзнака ў прысудзе і касацыйным вызначэньні. Судовае следзтва праведзенае судом усебакова і поўна. Пакараньне прызначана Севярынцу з улікам характару і ступені грамадзкай небясьпекі ўчыненага, дадзеных пра асобу, іншых канкрэтных абставінаў справы, зьяўляецца суразьмерным учыненаму і адпавядае мэтам крымінальнай адказнасьці. У сувязі з пазначаным, падставаў для прынясеньня пратэсту на прадмет адмены судовых пастаноў, якія адбыліся па справе, няма".



# Начальнік СІЗА адказаў на скаргу Зьмітра Дашкевіча

Начальнік віцебскага СІЗА № 2 пісьмова адказаў на скаргу палітвязьня Зьмітра Дашкевіча. У сваім адказе ён паведаміў, што 45 лістоў, якія адсылаў Зміцер Дашкевіч розным адрасатам, зафіксаваныя ў адпаведных журналах турмы і ў свой час былі дасланыя. Пра адказ начальніка СІЗА № 2 Зьміцер Дашкевіч распавёў у сваім лісьце з глыбоцкай папраўчай калёніі № 13 да



бялыніцкага журналіста Барыса Вырвіча, зь якім ён знаходзіцца ў сталым ліставаньні. Між тым, ніводны напісаны Зьмітром у віцебскім СІЗА № 2 ліст да адрасатаў так і не дайшоў.

У прыватнасьці, Зьміцер Дашкевіч з гумарам піша: "Зь СІЗА № 2 мне адказаў начальнік. Як на дзіва, мае 45 лістоў зафіксаваныя ў адпаведных журналах турмы і ў свой час былі дасланыя. Во так выходзіць :). Застаецца толькі Віцебскі паштамт :)". Таксама Зьміцер Дашкевіч адзначае ў сваім лісьце, што на датэрміновае вызваленьне палітвязьняў у яго спадзяваньняў няма: "Ці будуць тут каго вызваляць, я ўжо і ня думаю. Нейкі працэс дзіўнаваты, так бы мовіць. Мы ж у прынцыпе ведалі, на што ішлі, і ад самага пачатку ні на якія вызваленьні не разьлічвалі. Колькі дзеля Бацькаўшчыны трэба, столькі і адсядзім!:)".

Барыс Вырвіч адзначае, што ліст Дашкевіча пакідае добрае ўражаньне, ён даволі аптымістычны. "Я вельмі рады, што выпрабаваньні не зламілі Зьмітра, і ён па-ранейшаму захоўвае аптымізм, — кажа журналіст. — Магу адзначыць, што ў параўнаньні зь мінулымі атрыманымі мной ад яго лістамі настрой у Зьмітра зараз палепшыўся, і навогул ён трымаецца вельмі мужна".

# Вячаслаў Дашкевіч: Не далі нават патрымаць сына за руку

У Глыбоцкай калёніі адбылося першае за доўгі час спатканьне лідэра «Маладога фронту» Зьмітра Дашкевіча з бацькам. Зьміцер паведаміў, што яму патрэбная апэрацыя, перадае «Эўрарадыё». Едучы ў Глыбокае, Вячаслаў Дашкевіч моцна хваляваўся. Перш за ўсё - ці будзе Зьміцер на месцы. Бо напярэдадні спатканьня зьявілася інфармацыя ад «вопытнага супрацоўніка калёніі», што Дашкевіча «перавялі на Валадарку». Іншай прычынай хваляваньня было здароўе Зьмітра - у якім стане будзе сын? Пасьля галадовак, этапаў і карцэру бацька быў гатовы да ўсяго.



Палітвязень быў на месцы - і Вячаслаў Дашкевіч патрапіў на двухгадзіннае спатканьне. Праз шкло, нават бяз звыклых тэлефонных слухавак. А ў шкле - ані адтуліны. Так і крычалі адзін аднаму, нахіляючыся бліжэй, каб пачуць адказы. «Зьдзівіла адразу тое, што там толькі 2 кабінкі. Звычайна ў такіх сытуацыях тэлефоны бываюць, а тут тэлефонаў няма - толькі праз шкло. Але я адразу ўбачыў, што ён здаравей, чым калі я яго бачыў у турме ў Жодзіна. Тады быў больш схуднелы, больш сумны. Цяпер, можна сказаць, увогуле нармальны. У параўнаньні з тым, што было ў Жодзіна, на Валадарцы і тым больш у Горках - нашмат лепш», - сказаў бацька палітвязьня.

Бацька Зьмітра вельмі перажываў, што на спатканьне так і не пусьцілі нявесту сына Насту Палажанку - хаця маглі. «Закон не забараняе сустрэцца са зьняволеным ня толькі родным, але і блізкім знаёмым. Закон не забараняе - пры ўмове, што гэта паспрыяе "добраму станаўленьню вязьня". Нявесьце не дазволілі, спасылаючыся на... Ня ведаю нават, на што. Хаця закон не забараняе...»

«Зьміцер скардзіўся, што адна нага пабольвае. Дзесьці, ня ведаю, яго ўдарылі, ці ён ударыў... Кажа, што патрэбная апэрацыя. Дзе яго ўдарылі? Можа, ударылі, калі хапалі - валаклі або за ногі, або за рукі... Ён шмат чытае, шмат піша, займаецца самаадукацыяй, вывучае ангельскую мову, - працягвае бацька. - Яму рэдакцыя "Свободных новостей" адпраўляе газэту ў канпэрцэ. Прасіў, каб выпісалі на квартал "Народную волю" і "Нашу Ніву"».

Вячаслаў Дашкевіч кажа, што супрацоўнікі калёніі іхную размову ўважліва кантралявалі, але ня ўмешваліся. «Сядзелі то жанчыны, то нейкія людзі ў форме. Дзьве кабінкі - і там таксама сустрэча. Мы крычым, яны крычаць ... Але ніякіх заўваг нам ніхто не рабіў».

На разьвітаньне Вячаслаў Дашкевіч папрасіў хоць на імгненьне патрымаць сына за руку - не дазволілі... «Ужо, калі я выйшаў, ён сабраў там рэчы, якія не патрэбныя - каб я забраў назад. Я выйшаў, а ён яшчэ стаяў за дзьверцамі. Жанчына сядзела, я кажу: "Можна адкрыць масыўныя дзьверы, каб хоць за руку яго патрымаць?" - "Не, нельга". Ну, нельга - дык нельга...»

Бюлетэнь "За правы чалавека" выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.